УДК 821.161.2-93
ББК 84(4Укр)-44
С47

Пераклад з украінскай Алеся Карлюкевіча паводле выдання:

Слабошпицький, М. Чудасія на балконі : казки / Михайло Слабошпицький. — Київ : Ярославів Вал, 2013. — 48 с. : іл. — (Серія «БЕДРИК»).

Мастак
Аліна Пацёмская

*Для чытання дарослымі дзецям*

**Слабашпіцкі, М.**
С47 Нарвежскі кот не падвядзе : казкі / Міхайла Слабашпіцкі ; пер. з укр. Алеся Карлюкевіча ; маст. Аліна Пацёмская. — Мінск : Звязда, 2016. — 48 с. : іл.
ISBN 978-985-575-088-9.

Гэтая кніга падобна на домік-пальчатку, бо ў ёй жывуць цікаўная рыбачка і зайчаня, якое лічыць сябе смельчаком, нарвежскі кот у каралях і нават цуд на балконе.

Як у іх атрымалася знайсці агульную мову і ўжыцца ў адной кніжцы, не звандраваўшы ў суседнюю казку?

**УДК 821.161.2-93**
**ББК 84(4Укр)-44**

**ISBN 978-985-575-088-9**

# ЗМЕСТ




















# Цікаўная рыбачка



У адным вялікім стаўку жыла маленькая рыбачка.

У прыродзе тады самае лета стаяла. З вады рыбачка бачыла вясёлае сонца ў далёкіх нябёсах і голле вярбы, што звесілася ўздоўж берага да самай вады.

Цэлымі днямі рыбачка прывольна плавала пад вербамі і з цікавасцю пазірала на бераг: а што ж там робіцца?

На беразе з доўгімі вудамі ў руках сядзелі вусатыя рыбакі, з муркатаннем блукалі вусатыя каты і мэкалі рагатыя козы. Далей ад берага ляжала ў хмарах дарога, па якой пралягалі з грукатам грузавікі, трашчалі матацыклы, гойсалі на веласіпедах хлапчукі. А далей…

А далей рыбачцы нічога не было бачна.

І з тае нагоды яна дужа сумавала.

Рыбачка не раз бачыла, як дарослыя буйныя рыбы ныралі глыбока, аж да дна, разганяліся там і імкліва ўзляталі ўверх над вадой. Вось, мабыць, паспявалі ўсяго ўбачыць! Ім жа станавілася відаць нават далёка за дарогу.

Паглядзела-паглядзела на іх скачкі рыбачка і стала вучыцца.

Нырне і скокне ўверх. Нырне і скокне. Нырне і скокне…

І ўсё скача бліжэй да берага, каб вунь туды, на дарогу, даскочыць. Прыдумала сабе, што выскачыць з вады аж за вербы і падскокам па дарозе пагуляе.

Глядзелі вялікія дарослыя рыбы на тыя скаканні і асуджальна галовамі ківалі, аж хвалі ішлі ад таго па вадзе. Ківалі галовамі і прыгаворвалі: «Ой, не давядзе да дабра гэта скаканне!»





А рыбачка іх і слухаць не хацела.

«Адкуль яны могуць ведаць? — думала яна. — Прасядзелі ўвесь век у вадзе, нічога не бачылі, яшчэ і іншых вучаць: «Не давядзе да дабра! Не давядзе да дабра!» Давядзе! Я лепш за іх ведаю!»

Так сабе думала, яшчэ і ўслых прыгаворвала цікаўная, упартая рыбачка.

Прыгаворвала ў вадзе, аж бурбалкі ў яе з рота ляцелі.

Вылятала бурбалкі і плавалі, як празрыстыя гарошыны, пад вярбовымі галінамі.

А рыбачка скакала і скакала. Ужо ажно да голля даскоквала. І хвосцікам маленечкім памахвала, і на сонцы паблісквала.

Рыбакі нават пра вуды свае забыліся і на яе глядзелі. У іх ад захаплення ажно вусы варушыліся. А каты ля бярозы прыніклі, толькі вачыма за рыбачкай услед водзяць. Вось, думаюць, маленькая спажыва нам была б. Адзін нават скокнуў між вярбовага голля, каб злавіць рыбачку ў палёце. Але яна ўжо знікла ў хвалях, а кот булькнуўся ў ваду і роспачна заенчыў, быццам шкадлівае хлапчанё пацягнула яго за хвост.

Усе рыбакі дружна зарагаталі, і рыбы здзекліва хвастамі замахалі.





А рыбачка ўсё сваё — скача ды скача.

І даскакалася, гаротніца.

Ажно на бераг вылецела і патрапіла ў крапіву.

Рыпнулася там, каб сягнуць назад у ваду, а яно чамусьці не скачацца.

— Вой, — жаласліва прамовіла рыбачка, — што ж цяпер са мною будзе?! Што ж будзе?!

Прашалясцеў над ёю вецер і нічога не адказаў.

— Дапамажыце! Дапамажыце! — прашаптала рыбачка.

Правуркатала непадалёку машына і нічога ёй не адказала.


Ой!
Не давядзе да дабра!

«Прасядзелі ўвесь
век у вадзе, нічога
не бачылі...»





— Праўду казалі дарослыя рыбы, — заплакала рыбачка. — Не давялі да дабра такія скокі. Калі б я ведала, я сюды зусім не скакала б…

Але ніхто яе не чуў і ніхто не ішоў ратаваць.

Толькі каты вусамі ва ўсе бакі павялі, вушы навастрылі, вачыма заблiскалі і дружна кінуліся ў крапіву.

Ужо даўно і з'елі б гаротную рыбачку, але ўчынілі паміж сабою сварку.

— Гэта мая здабыча! Гэта мая здабыча! — голасна енчыў кожны кацяра.

Так і не падпускалі адзін аднаго да рыбачкі, ужо ў іх нават і да бойкі дайшло. А рыбачка змярцвела ад страху, хвосцік пад сябе падабрала, вочкі заплюшчыла і шаптала:

— Вось мяне і не будзе… Плаваюць рыбы ў стаўку, а я ўжо ніколі не паплаваю і не пабачу з вады радаснага сонейка… Як жа гэта несправядліва!

Так, гэта было б дужа несправядліва.

Але ж яно так і здарылася б, калі б у той час не ехаў каля берага хлапчына на веласіпедзе.

Убачыў ён каціную вайну і засмяяўся:

— Што, — звярнуўся да катоў, — б’ецеся за крапіву?

А пасля ўспомніў, што каты крапівы не ядуць.

«Што ж такое ў іх прычынілася? — падумаў. — Штосьці там у крапіве ёсць…»

І пабачыў ён перапуджаную рыбачку, што ўжо і дыхаць пераставала…

Дакрануўся да крапівы, і ўджаліла яна яму пальцы. Як агнём прыпякла. Іншы сеў бы на веласіпед і паехаў — вядома ж, крапіва лютая.

Але ж хлопчык быў добры і смелы.

— Джаль! Джаль! Пячы! Пячы мяне! — закрычаў ён скрозь слёзы. — Я ж не магу рыбачку ў бядзе пакінуць!

І дастаў рыбачку.

І кінуў у ваду.

Кацяры павялі за ёй вачыма, пакуль не булькнула, і расчаравана мяўкнулі.

— Вось так! — сказаў ім хлопчык. — І не сорамна вам зубы тачыць на малюсенькую рыбачку?! Злодзеі хвастатыя!



А рыбачка з-пад лагоднай хвалі толькі яму і пракрычала:

— Дзякую табе, хлопчык, дзякую!..

Ці пачуў яе хлопчык — не ведаю.

Але радасныя бурбалкі на вадзе ён пабачыў.

Сеў на веласіпед, свіснуў ды паехаў далей.

А вы яго часам не сустракалі?



# Зайчаня, якое лічыла сябе смельчаком



У густым-густым лесе, у глыбокай нары пад старым дубам, жыла дружная зайчыная сям'я.

Тата і мама часта адлучаліся з нары. Выбіраліся ў далёкія вандроўкі ажно за лес. Там было поле, а на ім раслі капуста, морква, буракі — усе зайчыныя ласункі.

Малыя зайчаняты мелі суровы наказ гуляць толькі каля свайго дрэва і не адбягаць ад яго нікуды. Ім сказалі, што ў лесе поўна драпежнікаў. Зловіць хто з іх дурное зайчанё — і з'есць адразу.

Шасцёра зайчанят былі дужа паслухмяныя. Яны паўтаралі адно аднаму бацькаў-матчын наказ і бегалі толькі вакол дуба. А сёмае зайчанё — урадзіцца ж такое! — зусім было непаслухмянае.

Выскачаць тата з мамай з нары — і яно імчыць следам за імі.

Дагнаць, канешне ж, не дагоніць. Толькі мільгаценне лап пабачыць і памахванне хвастоў.

Сядзе на заднія лапкі і журботна скажа:

— О, зноў не іначай як вецер панёс іх! А куды ж падзецца мне?!

Выпаўзуць з нары шасцёра паслухмяных зайчанят і да яго:

— Ты зноў збіраешся ўцячы з дому? Хочаш, каб цябе воўк з'еў?

— А я ваўка не баюся! — хваліцца перад імі.

— Цябе ліса зловіць...

— Я і лісы не баюся!






Яны дакорліва паварушаць вушамі, а ён усё выхваляецца перад імі:

— Я нікога-нікога і нічога-нічога не баюся!.. Я — не просты заяц, я — смелы і адважны заяц!

І скокам-прыскокам у саменькі гушчар.

Гойсае па палянах і сцежках, нюхае кветкі, ласуецца дзікім шчаўем, п'е ваду з ляснога ручая. Ды яшчэ і прыгаворвае пры гэтым: «Вось добра, што я такі смяльчак! Можа, я — найбольшы смяльчак на ўвесь наш лес!..»

Колькі дзён так сабе і думала вясёлае зайчаня. Ажно неяк выбегла яно на сонечную паляну, на якой і згубіла назаўжды гэтую думку. Можа быць, яе потым падабраў хтосьці з лясных жахароў. І цяпер носіць у сваёй галаве, да тае пары, пакуль таксама не згубіць.

Зайчаня нюхала кветкі, хрумкала палыновыя сцяблiны, а потым грэла на сонейку свой дапытлівы носік. І раптам, якраз насупраць яго, штосьці затупацела, зашалясцела. А потым голасна чхнула. Аж іскры па ўсёй галаве заскакалі і паміж дрэў праменьчыкамі некуды ў паднябессе паляцелі.

— Баю… — сказала зайчаня, але чамусьці заікнулася і не скончыла фразу.











Вушка яго неспадзявана затрымцела, як ліст пад дажджом. А ўсярэдзіне стала так халодна, быццам там мароз ударыў.

І тут зайчаня зразумела, што яно — не смелы і адважны малойца, а звычайненькі пужлівы заяц.

— Вой, — жаласліва застагнала зайчаня і хацела ўцячы, але лапкі яго не паслухаліся. Яны быццам ураслі ў зямлю і пусцілі карані.

«Што будзе?! Што будзе?!» — застракатала, завярцелася, як вавёрка на дрэве, пужлівая думка ў яго маленькай галаве.

А на яго ўжо насоўваліся моўчкі дзве страшэнныя істоты. У іх — чорныя насы. І чорныя вачаняты над насамі свецяць. А на спінах ва ўсе бакі грозна тырчаць іголкі.

«Вось яны і ёсць тыя самыя драпежнікі, — горка падумала зайчаня. — Заколюць мяне і з'ядуць… Прапаў, ой, прапаў-прапаў…»

А тыя грозныя драпежнікі не спяшаліся калоць яго і есці. Яны доўга глядзелі на яго і маўчалі. Пасля пачалі абнюхваць зайчаня.





Зайчаня ўціснулася ў траву і слухала, як бухкае яго маленькае спуджанае сэрца. Мабыць, усяму лесу было чутна тое бухканне.

— Пахне зайчыным малаком, — неспадзявана сказала адно з калючых страшыдлаў паблізу яго.

— Так, — трымцячым голасам адказаў яму шэравухі, — бо я зайчаня... Маленькае. Ціхмянае зайчаня...

— Сам бачу, што зайчаня, — сурова адказваў яму калючы звер.

— А вы... драпежнікі?

Яны перазірнуліся і засмяяліся.

— Табе пашчасціла! Мы не драпежнікі, мы вожыкі. Мы нікога не чапаем, — сказалі яны.

І зайчаня зразумела, што яны дарэмна здаваліся яму страшнымі. Вось толькі іголкі...

— А навошта вам іголкі? — спытала ўжо зусім смела.

— Каб бараніцца ад драпежнікаў.

І тады зайчаня расказала сваім знаёмым, як яно іх спачатку спужалася. Змаўчала толькі пра тое, што лічыла сябе самым смелым смельчаком у лесе.

Вожыкі правялі яго дадому. Бо хоць хвост у яго ўжо і не трымцеў і ногі зноў сталі паслухмянымі, аднак ён спуджана ўздрыгваў ад кожнага шоргату галінкі ці шапацення лістоты.

Дома ён нічога не расказаў пра сваю прыгоду. Але і не хваліўся, як было раней, што ён нібыта найсмялейшы смяльчак. Лёг утомлены і адразу заснуў.

І прыснілася яму, што ў яго на спіне навырастала паўнюсенька вострых калючак. «І цяпер, — падумала яно ўва сне, — можна не баяцца самага страшнага драпежніка. Цяпер можна быць сапраўдным смельчаком…»

Зайчаня прачнулася радасным і адразу ж памацала сябе лапкамі за спінай.

Але ніякіх калючак ці іголак там не было.

Яму стала дужа прыкра.

І зайчаня заплакала.

А як усе слёзы ў яго скончыліся, расказала ўсё матулі і тату.

— Затое ў нас самыя пруткія ногі на ўвесь лес, — супакоілі яны яго. — Ніхто не мае такіх хуткіх ног!

І яно зразумела: кожнаму зверу дадзена нешта такое, чаго няма ў іншых.

І з гонарам стала разглядаць свае доўгія ногі.

…Калі вам пашчасціць дзесьці пабачыць прыгожага даўганогага зайца з высока задраным угору хвастом — ведайце: гэта можа быць ён.

Так, той зайчык, які калісь лічыў сябе найсмялейшым смельчаком.

Ён ужо даўно вырас і стаў зусім дарослым зайцам.

І ўцёк заяц з гэтай казкі, каб пабачыць усё на свеце.

# Цуд на балконе

Мы жывём ажно на дзявятым паверсе белага будынка, што стаіць над саменькай Русанаўскай затокаю. Выйду я на балкон, зірну ў левы бок, зірну ў правы — і там, і там бачу, як купаюцца хлопцы, як ловяць рыбу, і, лічы, усю затоку бачу. А яшчэ відаць востраў на Дняпры, укрыты дрэвамі, а далей, за Дняпром, — чырвоныя дахі будынкаў, трамваі, аўтобусы і лінія метро, якая выскоквае з-пад зямлі, і па ёй праплываюць цягнікі…

Пэўна, ва ўсім Кіеве няма такога прыгожага месца, чым тое, дзе вырас наш гмах. Як добра, што мы якраз тут атрымалі кватэру!

Колькі жывём мы ў гэтым будынку, у гэтай кватэры, дык і ў нас на балконе заўжды хтосьці жыве. То галубы паселяцца і цэлымі днямі пра нешта між сабою туркочуць. То зграя вераб'ёў выцвырынквае. А то доўга хрумсціць моркваю ў клетцы трус, якога мне падарылі ў бабулінай вёсцы. Прывёз яго зусім маленькага, а калі ўжо восень прыйшла, давялося аддаваць труса назад у сяло, бо ўзімку будзе яму халодна тут, ды стаў ён вялікі, бы той кот.



А гэтай вясною на нашым балконе пачаліся сапраўдныя цуды.

Стаяла там у нас фанерная скрыня з зямлёю. Мама збіралася ў яе кветкі пасадзіць.

Неяк яна выйшла на балкон, каб прыбрацца пасля зімы. І чую, кліча мяне.

— Гэта твая работа? — пытаецца і не гаворыць, пра што пытаецца.

— Якая? Дзе? — дзіўлюся я, бо ў гэтым годзе яшчэ і не выходзіў на балкон — то маразы, то дождж: што мне на ім рабіць?

А матуля паказвае ў скрыню, у зямлю, у ямку. І адкуль яна магла ўзяцца? А ў той ямцы — сапраўднае яйка. Толькі на курынае ніколькі не падобнае. Бо крапінкамі засеянае і меншае, чым тыя, што мы на базары купляем.

— Хіба гэта не ты яго сюды паклаў? — ніяк не магла паверыць маці.

— Праўда, не я! — хацеў быў нават раззлавацца.

Але сярдзітасць маю ўжо перабіла цікавасць: а сапраўды, адкуль жа яно?



І не галубінае, і не вераб'інае. Хаця і ніколі ў нас на балконе галубы з вераб'ямі не несліся.

А ўжо вечарам мы ўсё ведалі. Гэта дзікая качка. Сапраўдная дзікая качка! Яна сядзела ў скрыні і зусім не баялася, што мы глядзім на яе. Калі я адчыніў дзверы і выйшаў на балкон, качка не паляцела, а спакойненька зірнула на мяне. Я хацеў дакрануцца да яе, але мама не дазволіла.

— Не чапай, — кажа, — няхай яна прывыкне да нас…

Вось я і не чапаў качку. Толькі зазіраў у ямку, калі яе не было ў скрыні. Там, у самым нізе, яна наслала сухога лісця. А на ім ужо з'явілася другое яйка, трэцяе, чацвёртае…

Потым іх стала ажно дзевяць. Папрытуляліся адно да аднаго, быццам жывыя істоты.

Што ж яна з імі зробіць? Мабыць, качанят выседзіць…

Няўжо ў нас на балконе будуць жывыя качаняты?

Дарэмна я сумняваўся. Так яно і адбылося. Аднае раніцы мы пачулі з балкона піск і вішчанне. Глянулі — ажно там клубком згарнуліся пухнаценькія жоўтыя качаняты. Такія сімпатычныя і пацешныя. І ўсё тыцкаюцца дзюбамі то ў скрыню, то ў сценку, то ў сваю маму. Нібы шукаюць штосьці.





Калі мы адчынілі дзверы, качаняты палезлі ў пакой. А качка з балкона сярдзіта засіпела на іх, каб вярталіся назад. Дык яны не паслухаліся. Мабыць, яна іх яшчэ не паспела выхаваць.

Мы пачалі карміць качанят крошкамі хлеба і дробна нарэзанымі кавалачкамі яблыкаў. Яны глыталі ўсё запар.

— Быццам з галоднага краю вырваліся, — смяялася мама.

Качка дазваляла нам гадаваць сваіх дзетак, толькі сычэла сярдзіта, калі мы якое з качанят бралі на рукі. Мабыць, баялася, каб мы іх не забралі ў яе назусім. Няўжо мы не разумеем, што такога рабіць нельга!

А качаняты раслі сабе ды раслі і сталі такімі галасістымі, што ўсе суседзі цяпер ведалі пра іх і часта прыходзілі да нас паглядзець на жыхароў балкона, іх маці зусім спакойна цярпела людзей. Ніхто з суседзяў яшчэ не бачыў такога цуду! А я перакананы: зусім невыпадкова качка выбрала наш балкон. Вунь іх колькі ў гмаху, ніжэй і вышэй нашага. А ёй захацелася менавіта тут гняздо зладзіць. Мусіць, таму,

што я тут жыву. Я ж — не звычайны хлопчык, а сапраўдны сябра прыроды. Ведаю, што жывёлам і птушкам трэба дапамагаць, бо яны — нашы браты. Так я ўсім і гаварыў. І ўсе са мною пагаджаліся.

Качаняты ж, мама любіць так казаць, раслі як з вады. З вады — яно сапраўды так: мы ставілі на балкон вялікі таз з вадою, і яны хлюпаліся там колькі хацелі. Які піск уздымаўся! Быццам цэлая птушкаферма ў нас на балконе. А іх жа — толькі дзевяць ды яшчэ іх маці.

Вось ужо нашы качаняты падраслі і сталі зусім не падобныя на тых, якія вылупіліся на свет.

— Хутка яны нас пакінуць, — сказала мама. — А восенню паляцяць у цёплую старонку…



— І ніколі на наш балкон не вернуцца? — спытаў я. — Ніколі-ніколі?..

— Мабыць, не...

— Вось шкада! — выдыхнуў я.

— Навошта ж ім вяртацца? Яны ж будуць зусім дарослыя...

А потым нашы качаняты адправіліся ў свой першы палёт. Маці-качка пачала спіхваць іх з балкона. І кожнае станавілася ў паветры на крыло.

— Бывайце, — з журботай сказаў я ім. — І не забывайцеся пра мяне!

А іх маленькая чародка павольна праплыла над Русанаўскай затокай і згубілася недзе за даляглядамі...

З таго часу, пабачыўшы дзікіх качак, заўжды думаю: «А можа, недзе там, сярод іх, ёсць і нашы гадаванцы...»



# Нарвежскі кот не падвядзе

Дзіўна выходзіць: дзе тая Нарвегія, а дзе — наша сяло... А ў нашым сяле — у мяне! — сапраўдны нарвежскі кот!.. Вось такая неспадзяваная гісторыя выйшла.

Пачалася яна зусім звычайна. Калі бацька ехаў у Кіеў, то я і не ведаў, што гісторыя ўжо пачынаецца. Ён заўсёды мне штосьці такое прывозіць з паездак. То казкі, то цацкі, то цукеркі. Але ж каб — ката!..

І не звычайнага, не такога, якіх паўнюсенька гойсае па сяле з задзёртымі хвастамі, а самага сапраўднага нарвежскага. Такое нават і не снілася, і не ўяўлялася.

Кот быў зусім малюсенькі. Яшчэ кацяня. Ён спуджана глядзеў на мяне і танюсенька мяўкаў.

— Есці хоча, — сказала мама.

— Дый нязвыкла яму на новым месцы, — дадаў бацька.

— Зараз дам яму каўбасы, — кінуўся я да халадзільніка.

— Ён яе яшчэ не есць, — спыніў мяне бацька. — Малачка б яму.

Налілі ў сподачак малака. Але кацяня ніяк не хацела падыходзіць да яго. Яно разгублена азіралася па баках. І яго розных колераў поўсць стаяла на ім тырчма. Пэўна, з перапуду.



— Што, дурненькі, што? — ласкава запытаўся я ў яго і пагладзіў.

Ён удзячна паглядзеў на мяне і пацёрся аб руку.

— Бачыш, прызнае цябе сваім гаспадаром! — усміхнуўся бацька.

І тут у хату заскочыў Пух. Мы спярша і не зразумелі, чаму ён такі сярдзіты, што ажно фыркае. Ужо пазней мама патлумачыла: дужа не спадабалася яму, што тут з'явіўся яшчэ адзін кот. Наш Пух быў з тым зусім не згодны.

Памятаю, Пух тады доўга кружляў вакол нарвежскага кацяняці і сярдзіта свяціў на яго вачыма. А калі я ўзяў кацяня на рукі, ён паглядзеў на мяне так, быццам я нанёс яму вялікую абразу.

Некалькі дзён Пух не падыходзіў ні да кацяняці, ні да мяне. Нават у хату рэдка заходзіў. Раней ён цэлымі днямі



выседжваў або на дыванку каля пліты, або на парозе і ціхенька мурлыкаў. Але, калі пачаліся дажджы, ён зноў улёгся на дыванок. На кацяня ніводнага разу не зірнуў. Быццам яго і зусім тут не было. Але кацянё не пагадзілася з паводзінамі Пуха. І аднаго разу кінулася да Пуха і застыла перад самымі яго заплюшчанымі вачыма. Толькі вуха натапырыў і хвастом памахвае.

Пух расплюшчыў вочы і грэбліва, быццам на якую пачвару, зірнуў на кацяня. Нават скрывіўся. Але кацяня не

звяртала ўвагі на такую непрыветлівасць. Яму, канешне ж, хацелася з Пухам сябраваць і гуляць.

Пух доўга з гэтым не пагаджаўся, ды ў яго не было выбару. Вымушаны быў прызнаць права нарвежскага кацяняці жыць з ім побач. Не хацеў нас злаваць, так і прымірыўся з новай, падобнай да яго самога істотай, хаця яна была дужа неспакойная і неаднойчы прыносіла яму непрыемнасці.

Сядзіць, скажам, Пух, мірненька мурлыкае, а гэты нарвежскі забіяка як скокне з ложка яму на галаву. Пух здрыганецца спалохана, адпаўзе ўбок і ўмольна глядзіць на нас. Утаймуйце, маўляў, пястунчыка свайго, бо ніякага спасу ад яго няма…



А яно — зусім малеча, толькі кіпцюрыкі добрыя мае. Мне тата расказаў, што ў нарвежскіх катоў яны для таго, каб лазіць па скалах. Неяк нават падрапаў Пуху нос, калі вось так рашуча скокнуў на яго. Бедалага Пух заенчыў ад болю і стукнуў лапаю кацяня па галаве. Ажно падалося, быццам нешта хруснула. Вось гэта на кацяня здорава падзейнічала. Цяпер яно ціхенька, нібы на дыбачках, падыходзіла да Пуха і запытальна зазірала ў вочы.

Пух адразу ж зрабіўся ветлівым і ўжо не фыркаў. Часам піў з ім, нарвежскім кацянём, малако. Ды прытым Пух нават дазваляў, каб яно аблізвала яму белыя кроплі на носе.

— Вось так пачынаецца дружба, — сказала мама.

— Гэта яшчэ не яна, — запярэчыў тата. — Сапраўдная дружба ў іх наперадзе.

Так, дружба пачалася зімою.

Пух не любіў гуляць сярод халодных снягоў. Цяпер ён цэлы дзень сядзеў у хаце каля пліты. А кацяня, якому мы



далі імя Нарвежац, прыгравалася ў яго пад бокам. Пух дрэмле, дрэмле і Нарвежац. Адзін расплюшчыць вочы, і другі не праміне гэта зрабіць. Мяўкне да Пуха, быццам з просьбай звяртаецца: давай гуляць. Яшчэ і хвосцікам падлізліва памахае. І лапкай шыю Пуха пагладзіць. Хіба ж пасля гэтага адмовіш яму? Пашчасціла Нарвежцу, што ў Пуха такое добрае стаўленне да яго склалася. Іншы кот мог бы і пакрыўдзіцца на малога шкодніка.

Подскакам лётаюць адзін за адным — ужо і хаты ім мала, ужо ў сенцах таўкуцца. Ужо і на падворак выскакваюць,



калі нехта дзверы прыадчыніць. Нырнуць у снег, быццам у ваду, — і назад у хату. Атрасуцца, задыханыя, і адзін на аднаго глядзяць: што б гэта яшчэ ўтварыць? А калі я пачынаю за імі ганяцца, мама дакорліва нагадвае:

— Слаўка, ты ж не кот, а разумны хлопчык. Пасядзі смірненька, можа, і яны супакояцца.

Ды дзе там супакояцца! Калі ў іх гарачка пачалася, то і да вечара не скончыцца. Як кажа мама, ім і ў галаве нізка будзе. Так смешна кажа.

За іх гульнямі я і не заўважыў, як зніклі снежныя гурбы, як увогуле снег сышоў і вясна надала прыродзе колераў зеляніны, — і, здаецца, увесь свет змяніўся. Цяпер мы ўтрох гойсалі па мяккай траве. Нарвежац стаў сапраўдным дарослым катом з такой пухнатай поўсцю на шчоках, быццам у яго барада вырасла. Не іначай ён ужо кот-дзед.

Улетку каты бегалі за мной і на ставок, і на бахчу.

Наперадзе Нарвежац, а за ім Пух цягне доўгі хвост па траве. Калі б не Нарвежац, то ён, мусіць, сядзеў бы ў двары, бо не было ў яго раней звычкі паўсюль валэндацца.

Аднойчы я зразумеў: лета заканчваецца. Бо ўжо купацца ў стаўку тата не дазваляў, ужо вішні і абрыкосы адышлі. І куды яно так хутка адляцела? Быццам хмарка ў небе раптоўна знікла.

Я ведаў, што ў гэтым годзе мне трэба ісці ў школу. Але на некаторы час забыўся. Як так яно здарылася, не ведаю. Успомніў, толькі калі мама сказала:

— Цяпер ты менш пра гульні павінен думаць. Бо ўжо хутка твая навука пачнецца.

...Яшчэ звечара пачалі мяне збіраць.

— Заўтра тваё свята, — кажуць бацькі.

— А ваша? — пытаюся.

— І наша таксама.

— А Пуха і Нарвежца?



— Зразумела, і іх, — чамусьці смяюцца.

— Тады і іх трэба сабраць.

Доўга думаў, як іх на свята сабраць. І прыдумаў. Павязаў Пуху на шыю сінюю матуліну хустку. Не спадабалася гэта яму. Галавою круціў, хацеў скінуць. А для Нарвежца знайшлася рэч яшчэ больш прыгожая. Я даўно бачыў, што ў маленькай скрыначцы на акне ляжаць чырвоныя каралі. Дастаў іх адтуль і пачапіў Нарвежцу на шыю. А каб не скінуў, зацягнуў тужэй. І ён сядзеў такі горды, быццам якую ўзнагароду атрымаў.

— Ну і штукар жа ты! — мама ажно пляснула рукамі. — Навошта такое рабіць?

— Няхай будзе, — толькі і сказаў я.

Так ціхенька-ціхенька сказаў. Ведаю, што яна пагодзіцца. Канешне, пагадзілася.

Раніцай я прачнуўся — і да катоў.

Але на Пуху хусткі не было. Ляжала пад сталом. Умудрыўся ўсё ж сцягнуць з сябе. А Нарвежац спакойна сядзіць з каралямі. Нават барада іх не затуляла.

А калі на вуліцу пад сонечныя промні выйшлі, то каралі ў яго аж успыхнулі, зазіхацелі. Усе на Нарвежца глядзяць. Колькі жывуць, такога яшчэ не бачылі. Нават Пух на яго зайздросна паглядае. Ён таксама не скідваў бы каралі, калі б я іх яму надзеў.

Ужо і да школы падышлі. Каты спыніліся.

— Пайшлі ў клас, — кажу ім рашуча.

А тут з'явілася мая настаўніца.

— Якія ў цябе прыгожыя праважатыя! — сказала яна. — А што ў яго на шыі?

— Каралі, — патлумачыў я. — Звычайныя каралі. А кот у мяне — незвычайны. Гэта сапраўдны нарвежскі кот. Яго Нарвежцам і завуць.

— Гэта ты так прыдумаў?

Хацеў сказаць, што я. Але ж гэта было б няпраўдай. Таму адказаў, як было на самай справе.

— Добра, пайшлі ўжо да ўсяго класа, — сказала настаўніца і ўзяла мяне за руку. — А каты твае няхай тут цябе пачакаюць.

І вось я ўжо сяджу ў класе. Не ведаю, пра што іншыя дзеці думаюць. А я — пра сваіх катоў. Асабліва — пра нарвежскага. Ці не згубіў ён каралі? Я ж не ўсе кацiныя звычкі ведаю. Ён можа ўтварыць што заўгодна.

На перапынку вылятаю са школы. Бягу туды, дзе пакінуў катоў. Але іх там няма. У мяне ажно слёзы на вочы набеглі.

І раптам з-пад дрэва важна выходзіць Нарвежац з каралямі на шыі. А за ім цягне хвост Пух. Глядзяць на мяне так, быццам хочуць спытаць, чаму я ўстрывожаны.

Ды ўжо звініць званок. Трэба бегчы ў клас.

Але я цяпер спакойны. Нарвежскі кот не падвядзе…



Літаратурна-мастацкае выданне

**СЛАБАШПІЦКІ** Міхайла

**НАРВЕЖСКІ КОТ НЕ ПАДВЯДЗЕ**

Казкі

Рэдактар *Н. Ф. Крыцкая*
Мастацкі рэдактар *В. Г. Паўлавец*
Камп'ютарная вёрстка *В. А. Амельчанка*
Стыльрэдактар *А. У. Жабінскі*

Падпісана да друку 18.02.2016. Фармат 70×90 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 3,51. Ул.-выд. арк. 3,2.
Тыраж 1100 экз. Заказ .

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных
выданняў № 1/8 ад 02.08.2013.
Вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, 220013, г. Мінск.

ТАА «ЮСТМАЖ».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 2/68 ад 19.03.2014.
Вул. Каліноўскага, д. 6 Г 4/К, п. 201, 220013, г. Мінск.

